№ 76 Ausgabe B·

# ГОМАН

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цана з перасылкай і дастаукай да хаты:
на 1 год—10 м. 80 фэн., на ½ году—5 м. 40 ф., на 3 месяцы — 2 м. 70 ф., на 1 мес. — 90 фэн.

Цана абвестак:
на 4-ай старане за радок дробнымі літарамі — 25 фэніг.; дробныя абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам

№ 76 (272). Год III. Вільня, 27 верасьня 1918 г. Цана 10 фэн. (5 кап.)

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## 26 верасьня.

**Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага*: У Даліне Ліс стычкі. Таксама на поўнач ад каналу Лябассэ і ля Мэвр.

*Фронт генэрал ан-шэфа ф. Бэн'а*: Пасьля заўзятага агню на паўдняўсход ад Эпегі і пры Бэлькур часткавыя наступленьні, каторыя адкінены. Між руччом Оміньён і Соммай непрыяцель вёў далей свае штурмы. Першая атака зламалася пад злучаным агнём артылерыі і пяхоты. Цэнтр ціжару чародных штурмаў быў між Понтруэ і Грыкур. Часова непрыяцель тут задзяржаўся, але контратакай мы яго выкінулі. Па палудні французы вялі атакі між Францілі і Сомм. Апрача дробных адрэзкаў непрыяцель усюды адкінены. За апошнія два дні мы ўзялі больш за 200 палонных.

*Фронт нямецкага Насьледніка*: На поўнач ад Альман мы ўзялі палонных. На поўнач ад Вайі мы адкінулі наступленьне непрыяцеля. Мы ўзялі тут 50 амэрыканцаў і французаў палонных.

З непрыяцельскіх эскадраў, што атакавалі Франкфурт на Майне і Кайзэрляндэрн, мы зьбілі 7 самалётаў.

---

БЭРЛІН. 25.IX. **Глаўная Камісія Рэйсхтагу.** Дэпутат Грюбэр ад цэнтру заявіў, між іншым: «Мы маем поўную веру да глаўнай каманды і войска, што яны закасуюць пляны непрыяцеля. Фінляндзкія справы трэба пакінуць разьвязаць фінляндцам. Быўшыя акраінныя народы ў сваім інтарэсе прыблізіліся да Нямеччыны. Мы павінны пайсьці ім насустрэч, шанаваць на практыцы іх права на самаазначэньне і правесьці ў занятых землях самаўпраўленьне як можна скарэй.

Дэпутат Шэйдэман, соцыал дэмакрат, сказаў, між іншым: «Вера вашых непрыяцеляў аб магчымасьці разграміць Нямеччыну—гэта ілюзія, але гэта ілюзія вядзе далей вайну. Берасьцейскі мір не адпавядае нашым паглядам. Мір на ўсходзе, як мы яго жадалі, даў-бы нам магчымасьць перавесьці ўсё войска з усходу на захад. Палітыка Фінляндыі мае абмылкі. Я вельмі жадаю, каб швагра Імпэратара не пайшоў у Фінляндыю. Рэгулюючы справы ўсходня-краёвых дзяржаў, трэба шанаваць права самаазначэньня народаў».

Дэпутат Фішбэк (пастаповай народнай партыі) сказаў, між іншым: «Небасьпека персональнай уніі Балтыкі з домам Гогэнцолернаў здаецца адсунена. Гэта была-б вялікая палёгка ў нашай палітыцы. Фінляндцаў ня можна прымусіць выбраць монархічную форму праўленьня. У сумежным усходніх краёх трэба весьці ясную палітыку свабодную ад жаданьня германізацыі».

Дэпутат Стрэзэман (нацыоналлібэрал) сказаў, між іншым: »Мы згаджаемся з статс сэкрэтаром аб тым, што няможна дапусьціць зьмяніць цяперашнія варункі ў Расеі ўмяшаньнем Нямеччыны. Мы праціўнікі тэорыі расейскага ўраду, але мы манімся так сама чэсна захаваць зроблены з ім мір, ян ён, гэны ўрад, захававаў дагэтуль мір у адносінах да нас. Мы зусім згаджаемся, каб з сумежнымі краямі былі зроблены конвэнцыі, каб можна было ўпарадкаваць там справы. Прыхільнікі адбудовы старой Расеі ня робяць нам ласкі. Аб шчырасьці жаданьня інародцаў Расеі адарвацца ад яе ня можа быць сумлеўку. Нямеччына ня можа проціў волі гэных народаў іх узноў прылучыць да Расеі. Але мы згаджаемсяісьці поруч з новай Расеяй і зробіць з ёй контынэнтальны саюз. Мы згаджаемся з дапаўняючымі ўмовамі, каторыя ў агульных рысах адпавядаюць патрэбам Нямеччыны і Расеі“.

БАЗЭЛЬ. Рады ў Пецярбурзе і Кронштаце выказаліся за абвяшчэньнем вайны саюзьнікам.

МАСКВА. 25.IX. Палкоўнік Шальгін. што арыштаваў у Архангельску новаасnаваны ўрад, арыштаваны і пераведзены на англіцкі ваенны карабель.

ГЭЛЬСІНГФОРС. 24.IX. „Извѣстія“ наказываюць, што чэхаславакі эвакуіруюць сваю глаўную кватэру з Самары.

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ. 25.IX. Татарскі ўрад Асэрбейдчана перанёся ў Баку, дзе яго вельмі віталі.

ТОКІО (Рэўтэр). 24.IX. Японская кавалерыя заняла Нерчынск.

АМСТЭРДАМ. У Паўднёвым Валісе між чыгуньнікамі пачалася забастоўка, каторая шырыцца і ў Лёндоне.

БЭРН. Японскі журналіст Токутомі надрукаваў стацьцю, у каторай кажа, што доля назначыла Японіі быць кіраўніком усходняазіятаў, г. зн. траціны ўсяе людзкасьці. Трэба ратаваць Кітай, Сыбір і Індыю. „Азія для азіятаў“.

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ. 24.IX. На палестынскім фронце наш рух быў зроблены раўнамерна. Англічане ішлі крок за крокам.

ШТОКГОЛЬМ. 25.IX. Затанула ад міны швэдзкая канонерка «Гундэль». Згінула 19 чалавек.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). **Урадова.** У Атлянтыцкім акеане мы затапілі 26.000 тонн.

---

# Беларускія Вучыцельскія курсы у Сьвіслачы.

Ад 15 кастрычніка 1918 г. да 15 жніўня 1919 г. ў Беларускай Сэмінарыі ў Сьвіслачы будзе адбывацца новы элемэнтарны курс для беларускіх вучыцялёў і вучыцеляк.

Адпаведныя кандыдаты і кандыдаткі ад 18 да 30 гадоў могуць заяўляцца ў сваіх крэйсамтах; мясцовыя—проста ў кіраўніка курсамі інспэктара Бэндзехі, у Сьвіслачы. Там-жа яны даведаюцца аб варунках прыёму.

---

# АДОЗВА!

«Сёлетні год будзе цяжкі і станоўчы. Але трэба моцна дзяржацца. І кожны, хто мае пашану і любасьць да Нямеччыны, мусіць ахвяраваць усё» Гэтыя словы Фрыдрыха Вялікага трэба балей чымся калі спамінаць. Сур'ёзны і цяжкі час, але далей мусіць ісьці барацьба ўсімі сіламі да пачэснага канца. З поўнай сілай непрыяцелі штурмуюць усё нанова проціў фронту, але заўсёды без жаданага рэзультату. Прыраўнаваўшы да нязвычайнага гэроізма там уперадзе, ваенныя цярпеньні і ахвяры тых, што асталіся тут, нязначныя. Аб усім гэтым нам трэба думаць цяпер, як Нямеччына прызывае нас да 9-е ваеннае пазыкі. Цяпер разьвязаваецца доля ўсяго: аб быцьці або ня быцьці Нямеччыны. Дык кожны павіненпадцісацца на **ваенную пазыку!**

---

# У нас па старому.

Калі з народаў Расеі па адрачэньні ад пасаду цара Мікалая спалі аковы, разам з другімі скарыстаў з свабоды і б. Віленскі біскуп кс. Ропп. Яшчэ да свайго назначэньня на Магілеўскага архібіскупа, ён лічыў патрэбным візытаваць тую часьць Віленскай дыэцэзыі, што была на той бок старога фронту.

Трэба ведаць, што паводлуг канонічнага права біскуп толькі тады перастае быць загадчыкам дыэцэзыі, калі пакідае яе з згоды Апостальскага Пасаду. Калі-ж бы яго прымусілі пакінуць сваю дыэцэзыю, а на гэта згоды з боку Папежа ня было, то пастулак гэты будзе бязпраўным і біскуп аж да свайго адрачэньня застаецца праватым біскупам дыэцэзыі і яго пастырскія лісты і загады абавязываюць усю дыэцэзыю як і часовага адміністратара дыэцэзыі.

Расейскі ўрад прымусіў біскупа Роппа пакінуць сваю дыэцэзыю. Апостальскі Пасад на гэтую зьмену ня згадзіўся, а біскуп Ропп ад дыэцэзыі не адрокся, значыць ён застаецца праватым біскупам дыэцэзыі. Выходзячы з гэтага права біскуп Ропп, як добры пастыр, уважаў за патрэбу візытаваць адлучаныя ад Віленскай дыэцэзыі Вялейскі, Дзісьненскі і Ашмянскі паветы, гаварыў казаньні пабеларуску, выдаў пастырскі ліст да духавенства аб патрэбе казаньняў і катахізацыі пабеларуску.

Здавалася-бы, што ўсё ў парадку. Адміністратар дыэцэзыі як толькі даведаўся аб пастырскім лісьце зараз абвясьціў аб волі Пастыра ўсяму духавенству і беларуская мова, як мова народу, увайшла ў касьцёл. Але... гэтак павінна-бы было быць, толькі... ня было.

Адміністратар дыэцэзыі кс. Міхалькевіч, дастаўшы гэты пастырскі ліст... схаваў яго пад сукно, бо паводлуг кс. Міхалькевіча, ён быў неканонічны, дзеля таго, што беларуская мова ў касьцеле забаронена і зсылаюцца на забароне ўжываньня ў касьцеле... расейскай мовы.

Цікаўна толькі, што калі благой памяці царскі ўрад хацеў увясьці ў касьцёл расейскую мову, то палякі разам з беларусамі даводзілі, што між мовай расейскай і беларускай нічога супольнага няма, але калі трэба ўводзіць у касьцёл беларускую мову, тады яна... расейская.

Мы разумеем, што наном „ad morza da morza“ падобным да кс. С—на ў Вільні (каторы прад вайной на адным з сабраньняў казаў: „яшчэ адно пакаленьне, і на Беларусі беларусаў ня будзе,—застануцца толькі палякі“) страшэнна прыкра, што беларускі народ жыве і пачынае варушыцца, мы гэта разумеем, але, паночкі, памятайце тое, што людзі і з воза пападаюць пад воз...

Але вернемся да беларускай мовы. У нас у дыэцэзыі робіцца ўсё магчымае каб недапусьціць толькі да касьцёла беларускай мовы. Хай лепш з нас сьмяюцца ксяндзы, што ня жывуць пад польскай апекай, хай народ не разумее праўд сьв. веры, хай перакручавае як можа польскія малітвы і песьні, хай робіць што хоча, толькі хай ня вымагае беларускай мовы ў касьцёле, бо гэта пашкодзіць... Варшаве.

Як ілюструючыя зразуменьне беларусамі польскай мовы ёсьць гэткія выпадкі:

